 

## Паведамленне Цэнтральнага Камітэта ПАРП, Савета дзяржавы і ўрада ПНР

Цэнтральны Камітэт Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі, Савет дзяржавы, урад Польскай народнай рэспублікі з глыбокім болем паведамляюць, што дня 7 жніўня г.г. у 15.05 гадз. пасля доўгай і вельмі цяжкай хваробы памёр Старшыня Савета дзяржавы, Старшыня Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа, член Палітычнага бюро ЦК ПАРП тав. Аляксандр Завадскі.

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (442) | ГОД IX | 16 ЖНІЎНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

# АЛЯКСАНДР ЗАВАДСКІ



Смерць Аляксандра Завадскага ўсіх нас ускалыхнула балючым жалем. Адыйшоў ад нас чалавек, які ўсёй сваёй істотай прынадлежаў свайму рабочаму класу, сваёй рэвалюцыйнай партыі, свайму народу.

Маладосць Яго — гэта доля рабочага люду. Трынаццацігадовы юнак з беднай сям'і ліцейшчыка шукае заробку, працуе на хлеб у сілезскіх шахтах. У падзямеллях шахтаў, у бадзянні па Дамброўскім басейне пазнае, што значыць рабочая доля. Прынадлежыць да эксплуатаваных, але не да пасіўных. У маладыя гады ўступае ў шарэгі барацьбітоў. Жыццё маладога дзеяча дзялілася на перыяды інтэнсіўнай палітычнай, прапагандысцкай і арганізатарскай працы і на перыяды турэмнага зняволення.

На працягу 20 год буржуазнай Польшчы Аляксандр Завадскі прыгавораны разам на 22 гады турмы. На працягу 20 год буржуазнай Польшчы — 11 год прабывае за турэмнымі кратамі. Нястомны ў барацьбе.

Жыццё Яго — гэта лёс рэвалюцыянера, лёс камуніста. Ад юнацкіх год з'яўляецца дзеячом, правадыром, членам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнага саюза моладзі. Дзейнічае ў Заглэмбю, Сілезіі, у Лодзі, на Келецчыне. Актыўны Яго ўдзел таксама ў дзейнасці камсамола Заходняй Беларусі, як прадстаўніка камсамола Польшчы.

Верасень 1939 года сустрэў Аляксандр Завадскі ў камеры санацыйнай турмы ў Брэсце. Ваенная завіруха кінула Яго ў глыб Савецкага Саюза. Калі пачалі арганізавацца ў СССР польскія вайсковыя злучэнні, Аляксандр Завадскі становіцца палітычным кіраўніком і адным з арганізатараў народнага войска. Мае ўжо тады за сабою баёвы вопыт — удзел у абароне Сталінграда. Генерал Аляксандр Завадскі, намеснік камандуючага I Арміі, генерал Аляксандр Завадскі, начальнік польскага партызанскага штабу, генерал Аляксандр Завадскі, намеснік камандуючага Войска польскага з першай хвіліны яго стварэння.

Жыццё Аляксандра Завадскага — гэта эпапея дзеяча ідучага простымі шляхамі, высакароднага чалавека. Калі ўтварылася Народная Польшча, Аляксандр Завадскі, не скідаючы яшчэ салдацкага мундзіра, вярнуўся ў сваю Сілезію. Хто тады не ведаў у Сілезіі генерала Завадскага, упаўнаважанага ўрада, народнага сілезскага ваяводы.

Круг дзейнасці і круг уплываў і папулярнасці Аляксандра Завадскага быў куды шырэйшы. Прынадлежаў Ён да найвышэйшага кіруючага звяна партыі — да яе Палітбюро — без перапынку на працягу дваццацігоддзя Народнай Польшчы, пачынаючы ад першага З'езда ППР. Усе чарговыя партыйныя з'езды аказвалі Яму нязменна гэты высокі давер.

Сімвалізуючы сваёй асобай, сваім мінулым і сваёй жыццёвай дарогай неразлучную адзінасць лёсаў народа, рабочага класа і партыі ўзначальвае Аляксандр Завадскі Фронт Адзінства Народа, а на працягу дваццаці год быў старшынёй Савета дзяржавы. Шахцёр, рэвалюцыянер і салдат, і адначасова шматгадовы дзеяч і арганізатар — такім быў у Народнай Польшчы чалавек, які займаў гэту высокую пасаду. Памятаем Яго з гэтага перыяду вельмі добра. Памятаем Яго выступленні. Памятаем Яго са шматлікіх сустрэч з рабочымі, сялянамі, інтэлігенцыяй, з моладдзю і дзяцьмі.

Смерць забрала Яго ў перыядзе поўнай актыўнасці. Адыйшоў ад нас заўчасна, пакідаючы ў спадчыне велізарны і каштоўны вопыт палітычнай і арганізатарскай працы. З боллю развітваемся з вялікім будаўніком нашай народнай дзяржавы.

 

## НА НАРВЕ

Фота Ул. Паўлючук





Міхась Забэйда - Суміцкі цяпер у сваім пакоі, па-рабочаму, з неадлучнай партытурай (Да артыкула Веры Леўчук «Спатканне з легендай». Стар. 8).

— Шыманоў Іван касілкаю скасіў аж міла пагля-дзець, — тлумачыць адна баба другой бабе.

— Бачыш ты! — як бы здзівілася другая баба і хутчэй загаварыла пра сваю бяду. — Зноў, халера, шнуроў не назапасілі, бегала да Колькі Грыкавага пазычаць...

У жніво Новая Воля гудзела падобнымі размовамі. Старшыня сельскагаспадарчага гуртка Іван Крэмінскі вечна ўсміхаецца. Ён задаволены, спаўняецца яго ідэя перамены псіхікі вясковага люду. Праў-

# АПТЫМІСТЫЧНЫЯ БЕДЫ

ду кажучы, падумайце самі, хто калісьці чуў, каб бабы талкавалі аб машынах, пераймаліся недахватам шнуроў да снапавязалкі... Часамі дзерліся за шнуры, але за тыя, на якія вешаюць бялізну...

Нашы разважанні аб добрых пераменах у характары нававольцаў неспадзявана перапыніў юрлівы дзядзька, які кінуўся з прэтэнзіямі, чаму не далі яму машыну ў час ды ў пару! (?) У цяньку панадворка распяклася шумная дыскусія. Крэмінскі не злуецца.

— Такія прэтэнзіі — тэта перспектыва ўдачнага развіцця сельскагаспадарчага гуртка. Цяпер з машынамі так, як было са штучнымі ўгнаеннямі — спачатку не хацелі, а потым вырывалі іх адзін другому з рук.

Кажуць, у Шымках пабіліся за машыны, аж з Беластока прыязджалі туды дзяліць тэхніку, што і каму першаму належыцца? Вось яно, якія часы насталі!

У Новай Волі не б'юцца. Тут усялякай тэхнікі многа ў параўнанні з другімі вёскамі, але мала, за-

(Працяг на стар. 4)

АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН

## НОЧ У БЕЛАВЕЖЫ

У спрадвечных нетрах пушчы наскай
па калена шышак смольны пад,
ходзяць, шэпчуць залатыя казкі
ля сасновых каланад.
Зоры спелыя навіслі густа.
Цішыню адчуеш, цішыню,
спалоханы раптоўным хрустам
ля начлежнага агню.
Па-рысінаму мурлыча чайнік...
Гэта месяц ці зубрыны рог?..
Пудка
патрывожаны гушчарнік
кінуў
цені
на мурог.
Патлумілі маладую віку
коні, уцякаючы да сёл, —
чутно,
як рогі
хтось вялікі
чэша
аб дубовы ствол.
Як ляднік
са стромаў скандынаўскіх,
ён грукоча,
ломячы кусты.
Прабіваюць чорныя канаўкі
у лагчынах
капыты.
Спуджаныя быстрыя тарпаны
з вепрамі спяшаюцца ў гушчар.
Вылецеў сівы пугач з туману,
рогатам трывожачы абшар.
Там,
дзе стрэхі цёмных лесвічанак,
са стажкамі ціхія двары, —
крыкнуў егер,
выбегшы на ганак:
— Паламалі загарадзь зубры!..



Там, дзе стрэхі цёмных лесвічанак. Фота: Паўлючук

IV УЗНАГАРОДА КОНКУРСУ «ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ»

# ДАВАЙЦЕ, ПАРАЎНАЕМ

Мінула дваццаць год існавання Народнай Польшчы. І каб ацаніць здабыцці народнай улады, трэба на якім-небудзь адрэзку зрабіць параўнанні, што было калісьці, і што ёсць цяпер. Для гэтага бяру сваю родную вёску Шымкі. Вёска Шымкі знаходзіцца на шляху Бельск — Ваўкавыск, 18 км ад Свіслачы, 50 км ад Беластока, 17 км ад Міхалова, па 20 км ад Нараўкі і Гарадка. Шымкі — вёска вялікая, паўтара кіламетра даўжыні. Калісьці была Шымкаўская воласць з сядзібаю ў Ялоўцы (5 км ад Шымак). Расказваюць, што ў Шымках была конная пошта і карчма, у якой таргаваў яўрэй Арко. 70 год таму назад пошта згарэла, а разам з ёю амаль уся вёска. Вёска адбудавалася нанава, сталася даўжэйшай і прыгажэйшай. Гаспадароў было 120. Да 1905 года ў Шымках не было школы, а народная школа знаходзілася ў Ялоўцы на ўсю воласць, у якой вучыў адзін настаўнік. Там жа была двухкласная Настаўніцкая школа і пры ёй абразцовая школа. Тых, што ўмелі чытаць і пісаць у Шымках, можна на пальцах палічыць. У 1905 годзе ў Шымках была адкрыта прыхадская школа, у якой да 1914 г. вучыў Лаўрэн Новік з Лукі. З прычыны падзелу, раздраблення гаспадарак, ураджаі былі дрэнныя, і часценька хлеб быў з мякінай. Заробкаў не было, за зямлю трэба было сплачваць вялікія падаткі. Большасць гаспадароў бедавала. Некалькі год перад першай сусветнай вайной стала трошкі лепей. Можна было выехаць на заробкі пры будове крэпасці ў Гродна. У гэты час 5 юнакоў закончылі Настаўніцкую школу ў Ялоўцы і пачалі працаваць настаўнікамі. У час вайны ў 1915 годзе частка гаспадароў выехала ў глыб Расіі, а шэсць гаспадароў не вярнулася. За санацыйнай Польшчы па поваду беспрацоўя ў гарадах не было магчымасці адплыву з вёсак, і таму яшчэ адбывалася большае раздрабленне гаспадарак і добра даваўся ў знакі час перад жнівом (przednówek). Часта свайго хлеба хапала толькі да запустаў. За 20 год санацыі адзін хлапец закончыў Семінарыю ў Свіслачы і працаваў настаўнікам, а двух пачало вучыцца. Чатыры старыя настаўнікі былі беспрацоўнымі, таму што санацыйны ўрад не хацеў прымаць на працу беларусаў. Па ініцыятыве настаўнікаў была арганізавана крама. Цукар куплялі на дкг, запалкі калолі на часткі і прымянялі крэсіва. Жанчыны па начах пралі кудзелю пры газоўцы або пры лучыне на камінку. Малацілі цапамі і днём і вечарамі пры самадзейных ліхтарах, зробленых з літра і газоўкі. Хлопцы, дзяўчаты хадзілі ў саматкан-

(Працяг на стар. 4)



**Гнілы будынак даўняга «прыхадскога вучылішча», што стаіць ля царквы, палохае развaленым дахам і павыпадаўшымі вокнамі; затое новая нававолькая школа беляціць свяжуткімі сценамі. Некатрыя гаспадары, як — Васіль Буйко, Іван Кулеша, Васіль Семянчук, відаць, рашылі, што няма сэнсу складацца далей на Фонд будовы школ і са злосцю кідаюць, бы з вялікай ласкі, усяго па пару злотых, хаця яны зарабілі не адну тысячу на продажы будаўнічага каменя.**

# АПТЫМІСТЫЧНЫЯ БЕДЫ

**(Працяг са стар. 3)**

мала, як на мясцовыя патрэбы. Каб не гнявіць шымкаўскіх гаспадароў, не буду пісаць, колькі Крэмінскі налічыў мне плугоў, касілак, снапавязалак, малатарняў і трактароў (па ціху кажу, што дакупілі яшчэ адзін, пяты трактар і то зусім нядаўна)...

— Багатыя, пэўна! Іх бухгалтар хваліцца, што дачакаецца паўмільённага абароту...

Сярод нававольскіх людзей ёсць гаспадары з уласнымі малатарнямі, млынкамі, касілкамі. Яны таксама хацелі б зарабляць, збіць крыху капіталу. Перашкаджае ім сельскагаспадарчы гурток. Свайго часу гэты канкурэнт не перашкаджаў, у гуртку заўсёды штосьці псавалася, штораз валачыліся з рамонтамі. Тым часам на чале гуртка стаў энергічны чалавек і перастала псавацца гурткоўская механізацыя. Аднак гурток не кожнаму падабаўся. Бывала, на агульным сходзе падымаецца са свайго месца заўжды падпіты Павел і трасе кулакамі:

— Мы не хочам «кулка»!

Рэшта маўчыць, выслухоўвае Паўлаву лаянку пакуль той знецярплівіцца і пойдзе прэч лупіць сваю жонку альбо... сабаку, калі жонкі няма ў хаце. Паўлавы «пратэсты» закончыліся тым, што сабака ад'еў яму вуха. Зрабіўся ён спакойным і ціхім, ніхто не мае да яго жалю, крыўды.

Бяда - беданька з гарэлачнымі пачастункамі. Народ неяк прызвычаіўся «стаўляць чарку майстру». Майстрам у іх лічыцца кожны, хто круціцца каля трактара, матора, малатарні ці іншага дзіва нашага веку.



**Трактарысты Мікалай Грыка і Мікалай Сак гавораць са старшынёю сельскагаспадарчага гуртка Іванам Крэмінскім і інструктарам беластоцкага ПОМ-у Віктарам Налівайка (першым злева). Хай нам не будзе дзіўным, што яны гавораць аб патрэбе арганізацыі ў Новай Волі аматарскага мастацкага гуртка. Здавалася б, што мае супольнага аматаршчына з механізацыяй, праўда? Але так ужо ёсць у жыцці, што актыўная ініцыятыва не ведае граніц — ёсць добры сельскагаспадарчы гурток, дык чаму мае не быць і добры мастацкі гурток?**

Крэмінскі прасіўся:

— Людцы мілыя, фундуйце, але толькі пасля працы, увечары, або ў нядзелю... п'яныя трактарысты-механікі ўшчэнт паl трэплюць трактары, паабрываюць сабе рукі ў трансмісіях...



**Людзі зразумелі не толькі тое, што трэба замясці вуліцу, каб была чыстай, але таксама хочуць мець многа прыгожай маладой зеляніны — гэтай аздобы ўсіх вуліц на свеце. Першымі ўзяліся за пасадку дрэўцаў вучні і моладзь. Вядома, да іх належыць жыццё, яны будуць глядзець на плады сваёй працы.**

Усе са зразуменнем ківалі галовамі на просьбы і часта - густа рабілі аднак жа па-свойму: значыць, раз трактарыст не адмаўляецца, хай мае спіртны паласунак, мо' за тое ляпей пастараецца зрабіць работу?... Раптам грахнула-ахнула па аколіцы трагічна - смешная вестка: на дарозе за Новаю Воляю сядзіць п'яны трактарыст з Ціванюкоў, плача рэўнымі слязьмі і збірае ў горбу свой пабіты трактар.

Ого, нарэшце зразумеў шкоднасць гарэлкі — за ўласныя грошы адбудуе тэту сталёвую кабылу, гарэлка нават і не будзе сніцца!

Хочаш-не хочаш, сельскагаспадарчы гурток выходзіць са сваіх вузкіх рамак эканамічнай дзейнасці. Неўзаметку, але настойліва кранае важныя пытанні грамадскага і таварыскага жыцця, памалу задае тон цэлай вёсцы. У праўленні гуртка знаходзіцца хроніка, з якой можна даведацца пра планы пабудовы лазні — ёсць малюткі спісак грашовых складчын, разам 700 злотых. Пакуль што на тым закончылася ініцыятыва будаваць гэты прыбытак голай чысціні. Бачыце, у павеце мамантальна вырашылі, што першым павінна мець лазню суседняе мястэчка Міхалова, мыць нямытыя спіны, а Новая Воля няхай не будзе ў гарачай вадзе купанай ды пачакае цярпліва са сваімі прэтэнзіямі і патрабаваннямі. Аказваецца, Новая Воля не з тых, што на злосць павятовым бацькам застанецца запушчанай, задрыпанай. — Выпрасілі дзвярыма — увойдзем акном, — гаворыць пагаворка. Пастанавілі:

— Не даеце падмогі для будовы лазні дык уложым сабе шырокія тратуары (бульвары) з навюткімі ходнікамі, якія ўжо самі зробім, без вялікай ласкі... засадзім дрэўцамі, пабелім і пачысцім. Што мы, горшыя ад Міхалова, ці як?

Пяцьсот плітак — ходнікаў зроблена, многія дадавалі да сваіх ходнікаў нат' два разы больш цэменту чым трэба, каб былі мацнейшымі. Настане вольная хвіліна, закіпіць работа...

Дзіўна, чаму мясцовыя пажарнікі пяць год будуюць рамізу і ніяк не моґуць дабудавацца. Зрэшты, на ўсё прыдзе свой час.

— Не адразу Рым збудавалі, — нецярпліва буркнуў мне дзядзька ў цеснай вясковай краме - каморцы, і, паставіўшы пад сцяною касу, купіў бутэльку піва. Ад піва не смажыць так піць у летнюю спёку.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

фота аўтара

# ДАВАЙЦЕ, ПАРАЎНАЕМ

**(Працяг са стар. 3)**

ках, мужчыны ў лыкавых лапцях або гумовых. Багацейшыя гаспадары плацілі за капанне бульбы 16 кг бульбы, а за касьбу 16—20 кг жыта. Школа была 4-класная з 2 настаўнікамі. Калі хто меў кормніка, то цяжка было яго прадаць. Такая была карціна жыцця ў Шымках у часы санацыі. Адсутнасць якой-небудзь перспектывы на будучыню.

Цяпер Шымкі зусім змяніліся. Паўстала 7-класная школа, у якой працуе 6 настаўнікаў. У 1947 годзе першы выпуск 7-класнікаў. У першыя гады ў Шымках вучыліся дзеці з цэлай аколіцы. Колькасць вучняў сягала часта да 300. Шматлікія атрымалі атэстаты сталасці. 30 з іх вышэйшыя школы. Цяпер працуюць у розных мясцовасцях Польшчы. У Савецкі Саюз выехала тры сям'і, на захад (землі адзысканыя) 6 сем'яў і гарады 8 сем'яў. Развіццё прамысловасці патрабавала рабочых рук, а 1 1/2—2-гектаровая гаспадарка не магла выкарміць сям'і. Занік зямельны голад. Пашлі ў няпамяць судовыя справы. Выходзяць з моды серп і цэп, якія хутка будзем аглядаць у музеях. Зніклі камінкі і газоўкі, бо некалькі год таму ў Шымках і аколіцы праведзена электрычнае святло. Перасталі хадзіць у саматканках, і жанчыны перасталі круціць калаўротамі. Лён мяняюць на фабрычныя тканіны, зніклі таксама лапці. Цяпер цана за капанне бульбы 50 кг бульбы, а за касьбу 50 кг жыта. Добрыя заробкі пры меліярацыі. Праведзена меліярацыя сенажаці і паш. Большая частка сенажаці заворана і засеяна, а астатнія будуць засеяны ў 1964 годзе. У Шымках існуе сельскагаспадарчы гурток, які мае камплект машын. Ён вельмі добра працуе і мае вялікія даходы. Добра спраўляюцца старшыня гуртка Янка Раманчук і трактарыст Уладзімір Пракапчук. У Шымках цяпер ёсць 3 крамы, злеўня малака, пункт аховы здароўя, ветэрынарная лячэбніца, радзільны дом, пажарная каманда. Выбрукавана вуліца і будуць пароблены тратуары. Гаспадары не мала ўклалі працы ў чын. Ураджаі сталі на многа лепшымі, таму што гаспадары пачалі прымяняць мінеральныя ўгнаенні. Ніхто не скардзіцца на «галодны час» і не ідзе прасіць на адробак жыта ці бульбы. Гэта здабытак 20-годдзя Народнай Польшчы.

**ВАСІЛЬ ДЗУН**

# ЦЯЖКАЕ ЖЫЦЦЁ КАРАЛЯ...

## ЦЯЖАР КАРАЛЕЎСКАЙ УЛАДЫ

У выдадзенай у нас у 1926 годзе кніжцы англійскага антраполага Джорджа Фрэйзара пад загалоўкам «Залатая галіна» знаходзім многа рэфлексіі над паходжаннем і істотай каралеўскай улады, а таксама шмат цікавых фактаў сабраных з краін усяго свету. Некаторыя з іх пераказваю ніжэй.

Аказваецца, што першым каралём даручана была ўлада не толькі над людзьмі ў сваім каралеўстве, колькі над сіламі прыроды. Кароль быў адказны за ўсё: за стан рыб у моры, за надвор'е, за пасуху і вялікія дажджы, за эпідэміі сярод падданых і г.д.

Вынікала гэта з таго, што ўладар краіны лічыўся абдараваным ненатуральнымі сіламі, а неаднойчы лічыўся проста богам. Яскравым прыкладам такога падыходу да манархі можа быць Японія, якой імператар лічыўся важнейшым нават ад багоў. Паводле вераванняў японцаў раз у год усе багі робяць візіт японскаму манарху і гасцююць у яго на двары цэлы месяц. Ніхто ў гэты месяц не наведвае святынь, так як багі, паводле агульнага пераканання, пакінулі іх. Урадавыя дакументы называлі афіцыйна манарху «уасобленым богам, які правіць усім сусветам». Манарха Японіі лічыўся натолькі святым, што нават зямля не была годнай таго, каб яго насіць, сонца каб свяціць, а вецер, каб шэльпацца ў яго доўгіх валасах. І таму людзі насілі яго на плячах у спецыяльнай, замкнутай з усіх бакоў калысцы.

Памыляецца аднак той, хто думае, што першыя манархі — гэта толькі дэспаты над сваім народам. Хутчэй за ўсё гэта пакутнікі, якіх жыццё было цярпеннем за ўвесь народ. І так, напрыклад, на тэрыторыі Гвінеі жыў у лесе кароль, якому нельга было крануць жанчыны, нельга было выйсці з дому, ды наогул нельга было варушыцца. Мог толькі сядзець на сваім крэсле - троне і ўтрымліваць «касмічную раўнавагу сіл». Нават спаў седзячы, бо калі б прылёг — перасталі б дуць вятры і ўсе параснікі яго падданых затрымаліся б на моры і не маглі б даплысці да берага.

У Тога на гары Агу жыў валадар, які меў права зыходзіць толькі раз у год з гары, каб зрабіць пакупку на кірмашы, але і тады не меў права пераступіць парог хаты, і мусіў у гэты ж дзень вярнуцца на гару. Аколіцай правілі вызначаныя праз яго намеснікі, а ён трымаў замкнутыя ў вялікім збанку вятры і кіраваў надвор'ем.

Кароль Лаанга не меў права зірнуць на мора, і таму ўвесь час прабываў у сваёй хаце маючы ногі закутыя ў кайданы. Адказнасць караля за сілы прыроды: буры, вятры, ураджаі і г.д. не была толькі чыстай фармальнасцю. Падданыя зусім у сур'ёз трактавалі гэтыя яго абавязкі, і калі манарха як трэба з іх не вывязваўся, неаднойчы нават забівалі яго як злачынцу, які наслаў на іх пасуху, голад ці іншыя няшчасці.

Цяжкія ўмовы каралеўскай службы ў многіх краінах даводзілі да таго, што не было кандыдатаў на каралеўскую пасаду. І таму, напрыклад, у краінах Заходняй Афрыкі кандыдаты на манарху лапаліся нечакана і трымаліся пад ключом да тае пары, пакуль той не згадзіўся стацца каралём. Жыхары Серра Леонэ выбіраючы новага караля засцярагалі сабе права адлупцаваць яго. Падданыя так ахвотна карысталі з гэтай прывілеі, што манарха часта пасля нейкага часу пакідаў не толькі каралеўскі трон, але і белы свет.

## ...І ЦЯЖКАЯ КАРАЛЕЎСКАЯ СМЕРЦЬ

Калі існаванне народа ці нават свету залежыць

 

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ**

# СПРАВЫ ШТОДЗЁННАГА ХЛЕБА

Жніво, жніво, і ўжо жніво закончылася. Цяпер толькі малаціць, малаціць і пячы хлеб. Ужо пахне нам вялікі бохан жытняга хлеба з уласнай печы. Усё часцей — кіруючыся выгодаю і схільнасцямі — ідзе селянін у краму ГС і там купляе хлеб.

Маем новы хлеб. І ўжо пара думаць пра тое, што будзем збіраць і есці за год. Набліжаецца сяўба азіміны. У нашым ваяводстве адно толькі жыта займае больш як чвэрць мільёна гектараў. Яго плёны ў бягучым годзе адносна добрыя. Першыя назіранні і падлікі паказваюць на тое, што найбольш слабы ўдаўся авёс, якраз той гатунак, які будзе адыгрываць штораз меншую ролю на нашай тэрыторыі.

Найбольш важнай справай з'яўляецца падрыхтоўка глебы да сяўбы. Інакш выглядае гэта пад жыта, інакш пад пшаніцу. Галоўная розніца заключаецца ў тым, што жыта патрабуе глебы добра адляжанай (падрыхтоўчыя працы трэба пачаць як найраней), а пшаніца добра пераносіць глебу свежа вораную.

Пад жыта выконваецца ворыва пераважна на 4—5 тыдні перад сяўбою (на лёгкай глебе гэты перыяд скарочваецца на 2 тыдні). Справа ў тым, што ў час асядання зямлі існуе небяспека разрывання далікатных карэнняў і знішчэння парасткаў. Часта жыта прыгожа ўзыходзіць, мае добрае становішча, зроблена ўсе патрэбныя працы, але потым сеянне рэдкае. Гэта і прычына іменна пашкоджання парасткаў пры асяданні зямлі.

На глебе пасля матыльковых выконваецца звычайна адно ворыва перад сяўбою, а пасля збожжавых — пераважна падарыўку і ворыва перад сяўбою. Калі была зроблена падарыўка, тады ворыва выконваем перад сяўбою. Глыбіня ворыва 15—20 см.

Сур'ёзнай справай з'яўляецца ўгнойванне. Яно бывае іншае пад жыта і пшаніцу. Жыта мае значна меншыя патрабаванні. Пасля матыльковых не даем азотнага ўгнойвання, а пасля збожжавых — 50 — 75 кг азотняку (на тыдзень перад сяўбою). Акрамя таго патрэбныя яшчэ ўгнаенні фосфарныя і каліевыя.

Пад пшаніцу даем: азотняку 60—80 кг (восенню) і 50—150 кг салетры (вясною), фосфарных — 180—240 кг і каліевых —100—150 кг.

Праведзеныя даследванні ў беластоцкіх навуковых установах у Шэпятове і Сейніку паказалі, што найлепшыя вынікі дае прымяненне азоту ў 3 дозах: восенню, у час пачынання вегетацыі і ў 2—3 тыдні пазней.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

**ПАРАДЫ ПРАЎНІКА**

# СЯМЕЙНЫЯ АДНОСІНЫ

Дзеці атрымоўваюць прозвішча бацькі. Калі маці захавала сваё прозвішча, якое мела перад шлюбам, і калі ў часе шлюбу муж і жонка зложаць заяву ў аддзеле запісаў грамадзянскага стану, што дзеці будуць мець прозвішча маці, то дзеці атрымоўваюць гэтае прозвішча.

Калі суд устанаўляе бацькоўства мужчыны, які не з'яўляецца мужам маці дзіцяці, на прапанову маці, або іншай асобы, якая апякуецца дзіцём, атрымоўвае яно прозвішча свайго бацькі. Пакуль бацькоўства судом не ўстаноўлена, дзіця мае прозвішча маці.

Бацькі маюць аднолькавае права выхоўваць дзіця. Яны абавязаны дбаць аб яго фізічным і псіхічным развіцці і падрыхтаваць да працы на карысць грамадству. У найбольш важных справах бацькі вырашаюць супольна, а калі няма між імі згоды, то, зразумела, вырашае павятовы суд.

Толькі суд можа агранічыць або адабраць бацькам уладу над дзіцём, калі яны выконваюць яе нязгодна з патрэбамі дзіцяці, або грамадства. Калі пазбаўляецца ўлады над дзіцём і бацьку і маці, то суд устанаўляе апекуна, які выконвае правы, якія прыслугоўваюць бацькам.

Бацька, які не з'яўляецца мужам маці дзіцяці, мае права ў выхоўванні дзіцяці і вырашэнні ў важнейшых справах, якія датычаць дзіцяці, толькі тады, калі яму гэткае права прызнае суд пры ўстаноўленні бацькоўства.

Бацькі абавязаны ўтрымліваць дзіця, пакуль яно не здольнае ўтрымлівацца самастойна. Узрост дзіцяці пры гэтым не адыгрывае ролі.

Калі дарослы знойдзецца ў сітуацыі недастатку, можа патрабаваць аліментаў ад сваіх сваякоў. Перш за ўсё абавязак аліментацыйны ляжыць на яго дзецях. Калі дзяцей няма, або яны не могуць плаціць аліментаў, патрабуючы можа патрабаваць іх ад сваіх бацькоў, а калі і ад бацькоў не можа атрымаць дапамогі, абавязак аліментаў абцяжвае братоў і сясцёр. Аднак у першую чаргу заўсёды памагчы мусіць муж або жонка.

Айчым і мачыха могуць патрабаваць аліментаў ад пасерба толькі тады, калі самі прычыніліся да яго выхавання.



З вянкамі да магілы герояў.

# НАД БУГАМ



Выступае калектыў песні і танца з Белай Падляшскай.

24.VІІ. 64 г. над Бугам у Няміраве адбыўся вялікі мітынг савецка - польскай дружбы, прысвечаны XX-годдзю ПНР і XX-годдзю вызвалення Беларусі. Пры граніцы ля берага ракі на шырокай паляне расцягнуліся сцягі і партрэты савецкіх і польскіх правадыроў партыі і ўрада. У 15 гадзін адкрыўся пераход граніцы і дэлегацыі з Сяміцкага і Белай Падляшскай паветаў у такт марша аркестра перайшлі граніцу. На савецкім баку ветліва віталі нас гаспадары Камянецкага раёна Беларускай ССР. У той жа час 6 тысяч чалавек змяшалася паміж сабой. Доўга цягнуліся сардэчныя прывітанні і поціскі рук. Гэты момант найбольш запісаўся ў сэрцы кожнага ўдзельніка брацкай сустрэчы.



Выступае эстрадная група з Каменца.

Пасля ўрачыстага прывітання адбыўся мітынг. Выступалі сакратар райкома з Каменца тав. Леанід Марціноўскі і старшыня ГРН у Сямяцічах тав. Вацлаў Дамінікоўскі.

У сваіх прамовах падкрэслівалі яны, што савецка - польская дружба стаіць на моцных фундаментах і ніхто яе не зможа парваць.

У мастацкай частцы выступілі калектыў песні і танца з Белай Падляшскай і эстрадная група з Каменца. Потым адбылася ўрачыстасць складання вянкоў ля помніка герояў пагранічнікаў.

**Тэкст і фота Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

ад паводзін караля, тады кожнаму стаецца зразумелым, якія катаклізмы пагражаюць краіне, калі кароль пастарэе. Можа ён, скажам, легчы спаць тады, калі не трэба, можа забыць выпусціць на час вятры, ці зрабіць нейкае іншае глупства. І таму, каб забяспечыцца ад розных няшчасцяў, якія можа прычыніць краіне кароль — старэча, першабытныя плямёны часта яго проста пасля нейкага часу забіваюць.

І так, напрыклад, у Камбоджы, калі кароль прыхварэў, забівалі яго кінжалам. Жыхары Конга караля свайго лічылі богам і верылі, што яго смерць пацягне за сабою канец свету і таму, калі кароль захварэў, уваходзіў да яго наследнік караля, душыў караля шнуркам і ў гэты самы момант сам станавіўся каралём. У некаторых плямён Афрыкі кароль абавязаны быў штодзённа адбываць суды над насельніцтвам пад вызначаным дрэвам. Калі не з'явіўся на суд тры дні падрад, падданыя вешалі яго на дрэва, перарэзваючы пры тым горла.

Плямёны Шулюкаў з-пад Белага Ніла вераць, што кароль не можа хварэць, таму, што калі кароль аслабне «быдла пачне хварэць і не будзе размнажацца, ураджаі згінуць у полі, а штораз больш людзей будзе хварэць і ўміраць». І таму Шулюкі пасылалі на той свет сваіх каралёў пры першых сімптомах слабасці. Адным з праяваў упадку караля была яго сексуальная слабасць. Проста жонкі караля (а кароль меў многа жонак) данасілі правадырам племені, што кароль не ў стане заспакоіць іх патрэб. Будавалі тады Шулюкі спецыяльную хату, у якую ўводзілі звязанага караля і маладую дзяўчыну. Галаву караля клалі на ўзлонні дзяўчыны і замуроўвалі дзверы. Без вады і ежы пара пасля нейкага часу памірала.

У Анголе кароль гінуў больш гераічна. Калі чуўся слабавата, падданыя прымушалі яго ісці на вайну. У баі пакідалі самога, і кароль гінуў.

У Зулюсаў (паўднёвая Афрыка) кароль мусіў згінуць, калі на твары яго паявілася маршчына, або пачалі сівець валасы. Вядома аб гэтым ад еўрапейскага гандляра, які быў блізкі Зулускаму каралю з той прычыны, што прадаваў яму брылянцін, які затушоўваў маршчыны і такім чынам прадаўжаў на нейкі час жыццё караля.

Яшчэ большыя патрабаванні да свайго караля былі ў каралеўстве Кафраў (Паўднёва - ўсходняя Афрыка). Найменшы дэфект на яго целе, скажам страта зуба, мог быць прычынай яго смерці.

Шматлікія аднак народы лічылі небяспечным чакаць, пакуль у караля пакажуцца відавочныя адзнакі няздольнасці да сваёй службы. Больш бяспечным было забіваць яго, калі ён яшчэ праяўляў поўнасць сілы і энергіі. І таму кароль меў дакладна вызначаны перыяд свайго панавання. У паўднёвай Індыі, напрыклад, быў гэта 12-гадовы перыяд. У апісанні падарожніка так вось выглядае момант смерці караля.

«Правінцыя Куіланар мае свайго караля, які правіць 12 год. Калі 12 год міне, збіраюцца незлічоныя тлумы людзей. Для караля робіцца драўлянае рыштаванне, пакрытае шоўкавымі заслонамі. У гэты дзень кароль мыецца ў лазні з вялікай цырымоніяй, пры музыцы, потым моліцца і ўваходзіць на рыштаванне. Тутай на вачах усяго народа бярэ вострыя нажы і абцінае сабе нос, вушы, губы і ўсе члены і толькі цела, колькі толькі зможа, і адкідае ад сябе спешна, аж толькі крыві страціць, што пачынае млець, і тады падрэзвае сабе горла. Той, хто хоча панаваць праз наступныя 12 гадоў мусіць быць пры гэтым прысутны і прыглядацца, і тут на месцы стаецца абвешчаны каралём».

У многіх народаў, калі нехта знойдзецца мацнейшы ці спрытнейшы ад караля, можа забіць яго ў кожны момант пры апрабаце ўсяго народа.

На заканчэнне зацытую словы напісаныя Фрэйзерам у пачатку нашага стагоддзя.

«Менш непраўдападобным выдасца нам пастаяннае ўсмерчванне караля пад канец гадавога яго панавання, калі даведаемся, што яшчэ ў нашыя часы існуе каралеўства, у якім панаванне і жыццё караля трывае адзін дзень. У Нгоё, правінцыі Конга, права наказвае, каб правадыр, які ўкладае на сваю галаву карону манархі, быў забіты ўначы пасля каранацыі. Права наследства прыслугоўвае правадыру Мусуронга, але не здзіўляймася, што з яго не карыстае. Ніхто не хоча аддаць жыццё за некалькі гадзін славы на троне Нгоё. І таму трон стаіць не заняты».

(а-п)



 

 

# СПАТКАННЕ З ЛЕГЕНДАЙ



**Міхась Забэйда-Суміцкі пасля аднаго са сваіх першых славутых канцэртаў.**

У чэшскай Празе пражывае вядомы беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі.

Аб гэтым даўно пісалася ў «Ніве». І мне раней гэта было вядома. А вось нядаўна будучы ў Празе я пазнаёмілася з гэтым чалавекам-легендай асабіста.

Міхась Забэйда ведаў, што я буду ў Празе і што буду шукаць з ім спаткання. А так як ён ўсё жыццё застаецца непрытворным беларусам, ахвотна выразіў сваю пісьмовую згоду на спатканне з журналістам «Нівы».

У Празе жыве на вялікай і ціхай вуліцы Польскай ужо ад 24 год. Займае адзіны пакой у вялікім доме з цудоўнымі старымі мазаікамі. Чакаў мяне пры доме на вуліцы і пазнаў чуццём. «Добры дзень», — сказаў і я таксама ведала адразу, хто перада мной.

Некалькі гадзін у пакоі гэтага незвычайнага чалавека праляцелі за хутка. З майго боку вялася хіба не надта складная размова. Я была за моцна пад уражаннем гэтага спаткання.

Рванымі фразамі, бо за хутка ляцеў час, гаварылі мы аб яго багатым жыцці. Фантастычным жыцці! З'ездзіў усю Еўропу. Спяваў на найлепшых сцэнах свету, напрыклад, «Ла Скала» ў Мілане (Італія). Насілі яго на руках. Пісалі аб ім усе газеты. Кар'ера бажышча стаяла адкрытай. А ён застаўся беларусам, беларускім спеваком і з педантызмам сачыў за тым, каб, калі ўжо аб ім пішуць, абавязкова ўстаўлялі, што ён б е л а р у с к і спявак. Спяваў на 16-ці мовах свету (знаўцы сцвярджаюць, што на кожнай мове ў песні кожнага народа быў непаўторным выказнікам дум і жаданняў гэтага народа і што гэтае майстэрства, так рэдка спатыканае, у Забэйды асягнула дасканаласць).

А ён дасканала валодае роднай мовай. І як спявае «Кукавала зязюленька», ці дзіцячую простую песеньку заложаную у душу мамай Суміцкай з дому (адгэтуль і другое прозвішча спевака).

Аб маме сваёй Забэйда расказвае: «Была простай вясковай беларускай жанчынай. Радзіла сямёра дзяцей. Пры жывых застаецца адзін. Часта была сумная. Я тады плакаў. Мама, каб мяне супакоіць, пачынала спяваць. Я фактычна пераставаў плакаць і пачынаў падцягваць за мамай. Мы спявалі разам... Бацька памёр, калі мне было 2 гады».

Успамінае, дзе нарадзіўся. Па - рознаму ў розны час пісалі аб гэтым. Некаторыя нават казалі, што пад стогам сена. Запытаў аднойчы мамы. Адказала: ці ж я помню, сынок, столькі вас радзіла, некаторых і пад стогам. Мо' то і ты якраз быў, ці я ўжо цяпер, старая, помню.

Мама ўжо не жыве. У мінулым годзе, будучы на гастролях у Беларусі, Міхась Забэйда - Суміцкі адведаў яе магілу.

Хацеў бы прыехаць на Беласточчыну, паспяваць тут. Вельмі хацеў бы. Як беларускі спявак, хоць будзе спяваць у 10-ці мовах.

(У другарадным парадку скажу — гаварыла крыху аб такой мажлівасці з людзьмі ў Беластоку больш ці менш кампетэнтнымі. Думка падабаецца. «То была б вялікая рэч» — нават так казалі. Хочацца марыць, што рэч прыме воблік беларускага спевака Міхася Забэйду - Суміцкага, жывой легенды, што ў нашых гарадах загучыць голас аднаго з вялікіх, аднаго з найбольш цэненых у Чэхаславакіі.)

Напярэдадні выезду з Прагі я яшчэ раз выбралася на вуліцу Польскую № 12. Цяпер з маёй сяброўкай з падарожжа Данусяй. Міхась Забэйда праводзіў нас. Даведаўшыся, што сяброўка полька, гаварыў на чыстай польскай мове. На ўзгор'і дзіўнай Праскай вуліцы мы развіталіся. Рэшту дарогі мая Дануся не пераставала захапляцца «які цудоўны пан».

Іменна, цудоўны! І ў кароткім рэпартажы мо' я і не змагла пераказаць усёй гэтай цудоўнасці яго. Ды як прыедзе, тады хорам паўторым словы Данусі, разам з ёй.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

P.S. У верасні г.г. Міхась Забэйда-Суміцкі адзначае юбілей — 35 год мастацкай кар'еры. Далучаемся і мы, падносячы чарку і скварку за далейшыя 35 год і 100 год!



**Архіўны здымак спевака, на якім бачым яго маму (сядзіць першая справа). Іншыя — далейшыя сваякі.**

# Два эпізоды двух 20-годдзяў

Хачу хаця з большага апісаць, якія ў нас былі дарогі калісь, а якія цяпер, і як калісь мы іх ладзілі, а як цяпер. Не буду пачынаць ад цара, а пачну ад санацыі. Заказаў солтыс, каб збіраліся ўсе на выган у хвоях, бо трэба будзе іх зрэзваць на дылі і лагуны і рабіць масток на рове. Прыйшоў і я. Ад бяднейшых папрыходзілі малодшыя, такія што толькі працаваць, а ад найбагацейшых — такія як цяпер — па семдзесят пару год. Двух было такіх, што зусім зямлі не мелі, толькі маленькія хаткі і па тры сажні агарода. Адзін з іх называўся Васіль Бандарук, а другі Юзік Петручук. Ім найбольш і дасталося. Бо тыя, што мелі па 30 гектараў, дык цэлы дзень толькі і зналі, што падганялі беднякоў, каб хутчэй працавалі.

Якія тады былі дарогі, хіба і пісаць не трэба. Адзін раз мне давялося везці нашага настаўніка пана Шыхановіча са станцыі Нараўка да станцыі Ляўкова. Па дарозе мой конь загразі мы мусілі вылазіць з воза. Другі раз мне давялося ехаць да Міхалова. Паміж Ляшукамі і Сушчай трэба было ехаць праз брод, дзе прышлося загразнуць, і чуць каня не ўтапіў.

А вось цяпер на гэтым месцы, дзе былі тыя брады, робіцца новая дарога. Многа ўжо тут людзі зарабілі грошай, многа паадраблялі шарварку. Нягледзячы на спякоту, людзі ахвярна працавалі. Яшчэ больш прыдало ўсім ахвоты, калі ўбачылі, што прыехалі з павету старшыня Аляксандр Хілецкі і інжынер Уладзімір Антасюк, якія зараз жа ўзяліся за лапаты. Разам працавалі і працаўнікі нашай грамадскай рады Фёдар Пташынскі, Ян Пачынскі, Яўгень Несцярук, Ніна Харкевіч, усе на чале са старшынёй Мікалаем Скепко.

Многа было фурманак з Ляшукоў, Міхнаўкі, Нова і Старога Ляўкова, Капітаншчыны і Кардону. Многа было школьнай моладзі з Ляўкоўскай і з Ляшукоўскай школ, якімі кіраваў сам Аляксандр Харкевіч і яго брат Аляксей Харкевіч. Яны вызначалі месцы сваім вучням і паказвалі ім, як трэба рабіць, а самі то хіба выраблялі патройныя нормы. Гэта ўсё напамінала пчол каля вулля або мурашак. Ніхто нікога не падганяў, на нікога не крычаў. Так ажно хацелася сыпануць тым дзецям хоць паўмяшка цукерак, а старэйшым па бутэльцы піва і па папяросцы. Але так ніхто і не закурваў, бо адзін перад другім спяшаліся. Каб жа яшчэ дачакаць і пабачыць, як па той нашай працы пойдзе ПКС, і каб я мог яшчэ ў ім пад'ехаць хоць да Міхалова.

**А. Грыц**
Ляўкова

# Грабавец развіваецца

Вёска Грабавец у Гайнаўскім павеце распаложана ў маляўнічай аколіцы. Блізка працякае рэчка Арлянка, за вёскай стаіць чорны густы лес. Каля клуняў ідзе шаша Гайнаўка — Кляшчэлі.

Грабавец даволі вялікая вёска, налічвае больш 200 гаспадароў. Дамы тут вялікія і прыгожыя, сярод іх палавіна цагляных. Панадворкі шырокія, абсаджаныя садамі. Найпрыгажэйшую цагляную хату мае (нядаўна што кончыў) Васіль Петручук. У вёсцы ёсць свая крама, сямікласная школа, пажарніцкая раміза.

І хутка будзе свая прасторная святліца, у якую сяляне з вёскі ўклалі вельмі многа сіл. На цагляны будынак святліцы бракавала грошай. І ў гэтым годзе не планавалася яе будова. Але людзі не апусцілі рук і па ініцыятыве мясцовай партыйнай арганізацыі, таксама прэзідыума ГРН у Дубічах Царкоўных будынак на святліцу, штопраўда драўляны, быў закуплены ў вёсцы Тапаркі ў аднаго гаспадара і перавезены да Грабаўца. Варта адзначыць і тое, што ахвярную дапамогу ў куплі будынка

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 2)

ўладам звыш 20 тысяч заяў аб адкрыцці беларускіх школ.

У той жа час у Заходняй Украіне рос і павышаўся кіраваны КПЗУ нацыянальна - вызваленчы рух, які выліўся ў форму масавай легальнай арганізацыі «Сельроб». У цэнтральнай Польшчы развівалася і глыбока прасякала ў масы Незалежная сялянская партыя, якая была пад уплывам камуністаў. Каардзініруючы ўзрастаючы нацыянальна - вызваленчы і рэвалюцыйны сялянскі рух, КПП накіроўвала яго ў ход узначальванай пралетарыятам барацьбы супраць фашысцкай дыктатуры Пілсудскага.

За год з лішнім свайго існавання, на пачатак 1927 года, Грамада пераўтварылася ў масавую сялянскую рэвалюцыйную арганізацыю нацыянальна - вызваленчага характару, якой раней не ведала гісторыя грамадскага руху ў Беларусі. Яна налічвала ў сваіх шэрагах звыш 100 тысяч членаў, аб'яднаных амаль у 2 тысячах гуртках і была самай масавай рэвалюцыйнай сялянскай арганізацыяй не толькі ў Польшчы, але і ў Еўропе.

Урад Пілсудскага пры дапамозе беларускіх нацыяналістаў імкнуўся падпарадкаваць БСРГ свайму ўплыву. Праз членаў партыі, якія былі ў Грамадзе, і рабоча-сялянскі актыў КПЗБ патрапіла ізаляваць і ў асноўным выгнаць з Грамады беларускіх нацыяналістаў і накіравала яе дзейнасць па рэвалюцыйнаму шляху ў саюзе з працоўнымі Польшчы і Заходняй Украіны. Не будучы ў сілах падпарадкаваць Грамаду свайму ўплыву ці раскалоць яе, урад Пілсудскага на пачатку 1927 года разграміў гэту масавую арганізацыю працоўных, кінуў у турмы яе кіраўнікоў.

(«КАМУНІСТ», Працяг будзе.)

**ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

# Два злодзеі і воўк

Аднойчы ўначы два злодзеі адправіліся на пакражу. Асцярожна падкраліся яны да багатага дому, якога прыглядзелі яшчэ напярэдадні. Да гэтага ж дому падкраўся і воўк. Ён ведаў, што тут у хляве кормяцца самыя тлустыя на ўсю аколіцу тучнікі.

Адзін са злодзеяў пайшоў паглядзець, ці ўсе ў доме пазасыналі, а другі застаўся чакаць яго каля плоту. Час ідзе, а першы злодзей усё не вяртаецца. Тады другі, якому збрыдла чакаць, пайшоў яго шукаць. Дайшоў злодзей да таго месца, дзе прытаіўся воўк, убачыў, што хтосьці сядзіць каля сцяны (а гэта быў воўк), і прыняў воўка за свайго сябра.

— Ты заснуў, ці што? — спытаў ён і працягнуў руку, думаючы патрэсці яго за плячо. Які ж быў жах злодзея, калі ён пачуў мяккую і доўгую шчаціну воўка, які пагражальна зароў пры гэтым. Злодзей задрыжаў, як асінавы лісток у час навальніцы, і кінуўся ўцякаць.

Воўк таксама не на жарты спалохаўся. Паімчаўся ён па двары і, пераскочыўшы плот, знік у лесе. У гэты час першы злодзей, які падкрадаўся ад адных дзвярэй да другіх, пачуў шум. Ён думаў, што гэта гаспадар гоніцца за ім, выскачыў з-за варот і кінуўся бегчы, не выбіраючы дарогі.

Выпадкова ён трапіў на тую сцежку, па якой уцякаў яго сябра. Злодзей, які бег наперадзе, пачуў за сабой крокі і падумаў, што гэта за ім гоніцца воўк. Імчыцца, што мае сілы, назад аглянуцца баіцца. Другі злодзей пазнаў свайго сябра, што бег наперадзе, і ўбачыўшы поспех, з якім той імчаўся па сцежцы, рашыў, што за імі пагоня. Затросся ён ад страху і прыбавіў кроку. Тады першы злодзей рашыў, што воўк ужо яго даганяе і пабег яшчэ хутчэй. Так усю ноч злодзеі ганяліся адзін за другім. У канцы, абегшы ўсе навакольныя дарогі, яны зваліліся з нямогі ў дзесяць крокаў адзін ад другога. Толькі з усходам сонца абодва злодзеі пазналі адзін другога. Вялікая была іх радасць. Яны далі ўрачыстую прысягу пакінуць сваю работу зладзейскую і прыняцца за сумленную працу. Хаця яны прысягалі з вялікім жарам, пугач, учуўшы іх словы, зарагатаў і загукаў на цэлы лес, таму што нават пугачы не вераць прысягам круцялёў.

Апрацаваў

**Мікола Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя
Гайнаўскі павет

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-39, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458, Bltk L-3

 